# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКі ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 19 (1774) ГОД XXXV БЕЛАСТОК 13 МАЯ 1990 г. ЦАНА 600 зл.




У Беластоцкім парку. Фота Я. Чэрнякевіч.

## ВЫБАРЫ'90

### Занатоўкі з дарогі

Гэта была, бадай, апошняя паездка членаў Беларускага выбарчага камітэта з Беластока „ў тэрыторыю" перад рэгістрацыяй сваіх кандыдатаў у акруговых выбарчых камісіях. За два месяцы свае дзейнасці БВК зрабіў велізарную працу, вылучыўшы сваіх кандыдатаў у гмінах ад Сямяціч да Саколкі. Доўгі час справа з выбарамі не ладзілася ў Міхалоўскай гміне. 25 красавіка Антон Міранові (намеснік старшыні БВК), Яанна Бура і я выбраліся на паездку па гэтай гміне, каб ацаніць сітуацыю і дапамагчы, калі трэба.

**Пянькі.** Ад Беларускага выбарчага камітэта вылучаны на выбары Уладзімір Цыванюк. Яго контркандыдатам з'яўляецца Аляксандр Бельскі. Абодва з Пянькоў, гаспадары, абодвум па 45 гадоў. У. Цыванюка дома мы не засталі, паехалі пагутарыць з А. Бельскім. У А. Бельскага 50 гектараў зямлі, гаспадарыць разам з жонкаю, маюць усе патрэбныя машыны. У наваколлі кожная трэцяя сяліба пакінута, няма наследнікаў. Шанц на выжыванне маюць толькі тыя гаспадары, у якіх гаспадарка спецыялізаваная, скажам, па гадоўлі авечак. Ды і то не ўсе. Скупкі авечак, практычна, няма. Даводзіцца ліквідаваць гадоўлю. Гаспадары плацяць велізарныя сумы на так званыя эмерытальныя складчыны (76 тысяч ад аднаго гектара). Да таго яшчэ даходзяць падаткі і страхоўкі.

**Новая Воля.** Доўга кружым па вёсцы разам з мясцовым святаром, пакуль знаходзім кандыдата. Аказваецца, кандыдатам з Новай Волі вылучаны Ян Саковіч. Яму 32 гады, мае вышэйшую сельскагаспадарчую адукацыю, працуе настаўнікам у Міхалове. Подпісы дзеля рэгістрацыі Я. Саковіча пазбіраў солтыс. Тут усё, як трэба. Гутарым з цесцем кандыдата. Дасведчанні папярэдніх выбараў паказваюць, што трэба глядзець выбарчай камісіі на рукі. Трэба, каб кандыдат меў свайго ўпаўнаважанага, які будзе прысутнічаць пры падліку галасоў.

**Юшкаў Груд.** Наш прыезд сюды аказаўся сапраўды дарэчы. Кандыдата з вёскі няма. Пры выдатнай дапамозе Любы Саковіч з Юшкавага Груда знаходзім яго. Яўген Мацвейчык, 36 гадоў; гаспадар.

**Рыбакі.** Усё нармальна. Ад Беларускага выбарчага камітэта кандыдуе Мікалай Хлябіч, 50 гадоў, гаспадар. Яго контркандыдат — Аляксандр Хлябіч, кіраўнік станцыі помпаў пры Семяноўскім вадасховішчы.

**Шымкі.** З вёскі кандыдуе Мікалай Лаўрашук, 47 гадоў, гаспадар. Подпісы пазбіраны, заўтра кандыдат будзе зарэгістраваны ў Міхалове. Збіраемся ехаць у Кандраткі, але М. Лаўрашук інфармуе нас, што там усё ў парадку, кандыдатам вылучаны Міхал Раецкі, 49 гадоў заатэхнік. Пакуль тое ды сёе, у Шымкі заязджае ўласнай машынай М. Раецкі. Раблю кандыдатам здымкі на памяць. Антон прымацоўвае на будцы з півам наш выбарчы плакат (адозву). Потым яшчэ доўга гамонім з шымкаўцамі пра палітыку смакуючы піва з міхалоўскага ГСу. Яанна сядзіць у машыне і падае нам знакі, што ўжо хопіць палітыкі, пара вяртацца ў Беласток. Палітыка спыняецца на чацвёртым куфлі. Вяртаемся. —

Ян Максімюк

## Пра нашых пісалі...

### ТАРАСЭВІЧ У „ДЫЯЛОГУ".

Так называецца занатоўка Крыстыны Канэцкай пра мастацкія поспехі Лёніка Тарасэвіча, змешчаная ў „Газеце Вспулчэснай" № 82 ад 26 красавіка г.г. Аўтарка, між іншым, піша:

„Лявон Тарасэвіч, мастак з Валілаў на Беласточчыне, падсумоўвае свой чарговы міжнародны поспех. У варшаўскім Цэнтры мастацтваў экспануецца зараз манументальны пейзаж „Без загалоўка", як звычайна, зрэшты, у гэтай арыгінальнай творчасці. Гушчар цёмных ствалоў дрэў, якія адбіваюцца ад сонечнага фону. Ствалы па пракурорскай волі чалавека назначаны вялікімі белымі лічбамі. Чарга на вырубку? На жыццё? Для мяне гэта гіганцкія экалагічныя клічнікі, гэта права на індывідуальнае ўспрыйманне.

Аб Тарасэвічу пісалі мы з год таму назад. Ад тае пары „залічыў" ён тры чарговыя персанальныя выстаўкі: ў Галерэі Нордэнгаке ў Стакгольме, Найджэл Грынвуд Галеры ў Лондане і Галерэі дэль Каваліна ў Венецыі. Прымаў ён удзел у трох калектыўных выстаўках: „Vision and Unity", арганізаванай музеем у Апелдорн, „Запусканне каранёў" у берлінскім Кучэргаўс, а таксама ў нямецка-польскай выстаўцы „Дыялог" у Кунстмузеі ў Дзюсельдорфе, якая зараз экспануецца якраз у Варшаве.

(...) Прыняць удзел у гэтай міжнароднай выстаўцы былі запрошаны чатыры маладыя мастакі з ФРГ і столькі ж з Польшчы. У арыгінальным, дасканала выдадзеным двухмоўным каталогу арганізатары прадставілі дакументацыю выстаўкі, якая экспанавалася на працягу некалькіх дзён мінулага года ў верасні ў Дзюсельдорфе і ў кастрычніку ў Дуйсбургу. Напісалі таксама: „Калі ў Польшчы ад лютага 1989 г. вяліся пасяджэнні Круглага стала і калі ўсе чакалі выбараў 4 чэрвеня, калі ўсе гаварылі аб палітыцы і амаль ніхто не думаў аб мастацтве, тады менавіта быў падрыхтаваны праект (які, можа, здаваўся і непрыкметны) польска-нямецкага супрацоўніцтва, якое ўжо тры гады адтэрміноўвалася".

У варшаўскім другім этапе „Дыялогу", як і ў ФРГ, апрача Лёніка Тарасэвіча, у выстаўцы з польскага боку ўдзельнічалі: Міраслаў Балка, Яанна Пжыбыл і Уладзімір Паўляк. (...)"

## НА мяжы

— 7 —

# Калектывізацыя і пісьменнікі

Не так даўно Вярхоўны Савет СССР прыняў закон аб зямлі. Закон гэты ў тэарэтычным сэнсе мае характар рэвалюцыі. Толькі падумаць, ад 1929 года вялася інтэнсіўная прапаганда аб тым, што калектыўная ўласнасць на зямлю самая перадавая ў свеце і што толькі яна стварае велізарныя магчымасці ў галіне прадукцыйнасці сельскай гаспадаркі. Аднак гісторыя не пацвердзіла слушнасці такога тэзіса. Наадварот, Савецкі Саюз не толькі не стаў вялікім экспарцёрам збожжа і мяса, але, наадварот, стаў найбольшым у свеце імпарцёрам гэтых прадуктаў. Тысячы пленумаў, канферэнцый, сходаў, якія павінны былі стаць пераломнымі ў галіне сельскай гаспадаркі і мелі вывесці яе на перадавое месца ў свеце, не апраўдалі надзеяў. Савецкі Саюз таптаўся на адным і тым самым месцы і па сутнасці ўсё болей адставаў ад перадавых у галіне сельскай гаспадаркі краін свету. Асабліва трагікамічнымі былі заявы Хрушчова ўсяму свету, што СССР праз чатыры гады пераганіць ЗША па прадукцыі збожжа, мяса і малака. Так аднак не сталася. Нічога дзіўнага, што ўрэшце ў СССР дзеячы зразумелі, што далей ісці калектыўным шляхам нельга, што трэба вярнуцца да рэпрыватызацыі зямлі. І так яно сталася. Магло б здавацца, што знойдзены геніяльны выхад, і праз некалькі гадоў СССР стане ракой малака і мёду. Аднак так яно не будзе. У душах савецкага сялянства, мабыць, поўнасцю знішчаны ўласніцкі інстынкт — той фактар, які вякамі быў палівам для „улады зямлі" над сялянскай душой. Баюся, што ў неабсяжных прасторах СССР знойдзецца параўнаўча няшмат калгаснікаў, якія захочуць стаць прыватнымі гаспадарамі. Калі такі працэс мае шанц, дык перш за ўсё ў прыбалтыйскіх рэспубліках, у Заходняй Беларусі і на Украіне. Аднак гэтыя параўнаўча невялікія арэалы зямлі не вырашаць праблемы ў СССР. Па-другое, якраз у гэтых рэгіёнах большасць калгасаў — гэта моцныя добрыя гаспадаркі. На пачатку гэтага года я быў у некалькіх калгасах Гродзеншчыны і быў здзіўлены іх дасканалым станам.

Быць можа, знойдзецца палітык ці група палітыкаў, якія прыйдуць да вываду, што трэба выкарыстаць метад, які быў ужыты ў СССР у 1929 годзе. Гэта значыць, прымусова ліквідаваць усе калгасы і перадаць усю зямлю ў рукі сённяшніх калгаснікаў. Такога тыпу рэвалюцыя была б такой самай гаспадарчай катастрофай, як і тая з 1929-1930 гадоў. Давяла б да поўнага краху гаспадаркі, да страшэннага крызісу і голаду. У гэтай справе прыемлімы толькі эвалюцыйныя, а не рэвалюцыйныя шляхі. Зямельна-сістэмная рэвалюцыя была б формай самазгубы. І спатрэбяцца не тыдні, не месяцы, а дзесяткі гадоў для таго, каб наступілі пазітыўныя змены і каб паліцы ўсіх прадуктовых магазінаў у СССР напоўніліся, як гэта ёсць ва ўсіх заходнееўрапейскіх краінах.

Так ці інакш, лёд скрануўся, і заўтрашняя савецкая вёска павінна быць іншай, чым сённяшняя. Якая будзе, дакладна не ведаем. Новая сітуацыя патрабуе ад савецкіх пісьменнікаў-публіцыстаў новага і шчырага слова. У чым яно павінна праявіцца? Перш за ўсё ў тым, што пісьменнікі і публіцысты павінны сказаць усю праўду аб тых страшных часах, калі сілаю было зламана адвечнае сялянскае права на ўласную зямлю, і калі дзесяткі тысяч беларускіх сялян былі рэпрэсіраваны, і аб той бядзе, у якой жыла беларуская калгасная вёска. Апрача гэтага пісьменнікі і публіцысты павінны шукаць у сялянскай рэчаіснасці тых калгаснікаў, якія ўжо выйшлі з калгасаў і пачалі гаспадарыць на ўласным кавалку зямлі. Пісьменнікі і публіцысты абавязаны сказаць добрае слова аб аплёваным і зняважаным міністры Прышчэпаве, які ў дваццатыя гады стараўся правесці ў Беларусі хутарскую сістэму, каб пайсці шляхам заходнееўрапейскіх дзяржаў.

Пішу я гэтыя словы, а ў маім сэрцы няма надзеі. Бо ці ж можна марыць аб развіцці беларускай сельскай гаспадаркі, калі вядома, што беларуская зямля страшэнна забруджана радыяцыяй? Так, гэта наша страшэнная супольная бяда, і як яе пазбыцца — не ведаю.

**Алесь Барскі**

## З мінулага тыдня

**Сёлетні Першамай** адзначаўся зусім інакш, чым раней. Розныя арганізацыі левага напрамку ладзілі свае асобныя маніфестацыі. Мітынгі ў Варшаве арганізавала „Салідарнасць" і групоўкі Польскай сацыялістычнай партыі. Агульнапольскае пагадненне прафсаюзаў (ОПЗЗ) і Сацыял-дэмакратыя Рэчыпаспалітай Польскай наладзілі шэсце да помніка Ніке, у якім прымала ўдзел каля 10 тысяч чалавек. Маладыя людзі са „Змагаючайся салідарнасці" пры дапамозе петардаў прабавалі разбіць гэтую дэманстрацыю.

**У час першамайскай дэманстрацыі ў Маскве** яе ўдзельнікі — прадстаўнікі незалежных дэмакратычных і апазіцыйных сілаў абсвісталі Міхаіла Гарбачова і іншых савецкіх кіраўнікоў.

**Сёлета 3 май** адзначаўся ўпершыню пасля вайны (у гонар Канстытуцыі 3 мая 1791 года) як дзяржаўнае свята. З гэтай нагоды ў Беластоку, апрача касцельных урачыстасцей, адбылося шэсце і мітынг, арганізаваны Канфедэрацыяй незалежнай Польшчы і „Усяпольскай моладдзю".

**У пачатку мая падаражэлі** аплаты за карыстанне тэлефонам, папяросы, мяса і мясныя вырабы.

**У Маскве,** на плошчы Свярдлова, каля тэатра „Большой" закончыў жыццё самагубствам праз самаспаленне літоўскі грамадзянін у знак пратэсту супраць адносін Савецкага Саюза да незалежнасці Літвы.

**1 мая была ўведзена на Літве** рэгламентацыя харчовых прадуктаў. Рэспубліканскія ўлады вымушаны былі прыняць такое рашэнне ў сувязі з цяжкім гаспадарчым становішчам, выкліканым савецкімі санкцыямі. Кожны жыхар можа купіць кілаграм цукру, 2 кг мукі, 5 кг збожжавых прадуктаў, паўкілаграма макаронаў, 250 г масла і кілаграм солі ў месяц.

**Пагромы цыганоў** адбыліся ў паўночнай Чэхіі. Групы маладых хуліганаў (панкаў і скінгідаў) нападалі на цыганоў на вуліцах, ва ўласных іх кватэрах, у сталовых, дыскатэках і на канцэртах, выкідалі іх з аўтобусаў, білі палкамі, кабелямі і кастэтамі. Грамадзяне цыганскай нацыянальнасці, якіх у Чэхаславакіі 420 тысяч, дэманстрацыйна перасталі хадзіць на работу, не пасылалі дзяцей у школу, стваралі атрады самааховы. Мясцовым уладам дапамагалі навесці парадак дасланыя федэральным урадам войскі Міністэрства ўнутраных спраў.

**У Польшчы знаходзіцца** вядомы савецкі псіхатэрапеўт **Анатолій Кашпіроўскі.** Прыехаў ён па запрашэнню страхавога кааператыву „Веста" з Лодзі на трохтыднёвы адпачынак. Прадбачана некалькі псіхатэрапеўтычных сеансаў у некаторых гарадах.

На 80-ым годзе жыцця **памёр у Маскве Патрыярх Масквы і Усяе Русі Пімен** (у міры Сяргей Ізвекаў).

# КАНДЫДАТЫ

### КААЛІЦЫЙНАГА ВЫБАРЧАГА КАМІТЭТА

На выбары ў гарадскую раду ў Беластоку супольных кандыдатаў вылучылі Праваслаўнае брацтва і Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне, аб'яднаўшыся ў Кааліцыйным выбарчым камітэце. Спісак кандыдатаў наступны:

**Акруга 1:**
**МУЛЯРЧЫК АЛЯКСЕЙ**, 40 г., будаўляны інжынер.
**МАТВЕЮК ЯРАСЛАЎ**, 22 г., студэнт юрыстыкі.
**ПРОШЧУК ВІНЦУК**, 38 г., эканаміст.

**Акруга 2.**
**ЮРЧУК СЛАВАМІР**, 24 г., электронік
**ШЫРКОВЕЦ ЯРАСЛАЎ**, 36 г., агароднік

**Акруга 3:**
**МІРАНОВІЧ АНТОН**, 31 г., гісторык (БДА).
**АБРАМОВІЧ УЛАДЗІМІР**, 50 г., тэхнолаг па дрэве.

**Акруга 4:**
**НАЗАРУК СЛАВАМІР**, 32 г., дарожны тэхнік.
**НІКІТАРОВІЧ АЛЯКСАНДР**, 66 г., пенсіянер.
**ПРОШЧУК АЛЯКСАНДРА**, 38 г., інжынер-агароднік.

**Акруга 5:**
**ВАЎРАНЮК МІКАЛАЙ**, 45 г., будаўляны інжынер.
**КУР'ЯНОВІЧ МІКАЛАЙ**, 49 г., эканаміст.

**Акруга 6:**
**НІКІЦІН АЛЯКСАНДР**, 46 г., інжынер.
**РАМАНЮК ЮРКА**, 36 г., будаўляны тэхнік (БДА).

**Акруга 7:**
**КРУК ПЯТРО**, 52 г., тэхнік-механік.
**ЮШЧУК ПЯТРО**, 38 г., юрыст (БДА).

**Акруга 8:**
**МАКСІМЮК ЯН**, 32 г., журналіст (БДА).
**АЛЬХОВІК ЯЎГЕН**, 31 г., інжынер-электрык (БДА).

# УВАГА, ВЫПУСКНІКІ

### БЕЛЬСКАГА ПЕДАГАГІЧНАГА ЛІЦЭЯ

**23—24 чэрвеня 1990 г. у Бельску-Падляшскім адбудзецца з'езд настаўнікаў і выхаванкаў Педагагічнага ліцэя.**

**Усіх зацікаўленых просім да 20 мая г.г. даслаць заявы аб удзеле і пералічыць 50.000 злотых на рахунак Школьнай бурсы ў Бельску-Падляшскім: PBK Warszawa, Oddział Bielsk Podlaski, Nr 370419-563-139-12 з прыпіскай „Zjazd".**

**Дакладныя інфармацыі можна атрымаць па тэлефоне (2673 або 2685 у Бельску) або пішучы на адрас: Bursa Szkolna, 17-100 Bielsk Podlaski, ul. Mickiewicza 122.**

**Арганізацыйны камітэт з'езда**

## ЗАМАЛЁЎКІ З ЖЫЦЦЯ

### ЖЫВЕ ЧАЛАВЕК!

Учора споўнілася мне сорак гадоў.

— Божа ж мой! — падумаў я. — Гэта ж ужо старасць. Жыве чалавек! Гэта гучыць горда, — думаў я раней, а цяпер пытаю сябе: жыве чалавек?

На што тое жыццё?! Адзін падман і Бог ведае яшчэ што!

Вось тыдзень таму памёр мой сябра. З Юркам былі мы неразлучнымі. Разам сядзелі за партай у пачатковай школе, пасля ў тэхнікуме. Ва універсітэце таксама былі разам. Жонкі нашыя — таксама добрыя сяброўкі, і нашыя сем'і жылі як адна найлепшая сям'я — разам праводзілі свабодныя дні, былі на ўсіх гасцінах, хрысцілі сваіх дзяцей... Эх!

Жонка Юркі гаварыла, што жыць без яго не можа, а сёння сказала, што адзінокай не будзе і выйдзе за суседа. Як гэта так? Толькі тыдзень мінуў ад смерці Юркі, а яна ўжо з іншым? Бязбожніца!

„Напэўна, — падумаў я, — мая Люся не лепшая. Яна толькі чакае, каб я памёр, тады адразу іншага возьме. Мо таксама суседа. Чаму ж гэта ўдавец Віця ўсё ёй кланяецца і гаворыць: „Ой! Як пані Люся сёння пекна выглядае!“ Яна толькі чырванее. Гэта не інакш, як залёты, а яна іх прымае!“

Калі так, то я інакш паступаць буду. Не хачу абманваць сябе, што няверная жонка мяне кахае. Якая яе сардэчная сяброўка, такая і яна. Чакае толькі маёй смерці.

Мая Люся прыйшла з працы, і, як у нас было прынята, хацела мяне пацалаваць.

— Адчапіся! — злосна прамармытаў я... — Старога чалавека не трэба чапляцца.

— Што ты кажаш? — здзівілася Люся. — Ты для мяне заўсёды малады. Можа ў цябе ў працы нешта не выйшла?

Я трэснуў дзвярыма і зачыніўся ў другім пакоі.

— Валерык, адчыні. Хадзі на абед! — чую праз дзесяць мінут.

— Што?! Ужо так хутка згатавала?!

— Я падагрэла. Я ўчора зрабіла абед на сёння і паставіла ў халадзільнік, і сёння ўжо гатовы. Хутчэй з'ямо і пойдзем у кіно...

— Нікуды не пойдзем, і я твайго абеду есці не буду! Напэўна, атруту мне падсунуць хочаш! Так як Марыся Юрку! І хочаш выйсці за суседа-ўдаўца!!!

— Валерык, апамятайся, — прасіла Люся. — У Юркі быў жа інфаркт. Марыся дрэнна робіць, што водзіцца з гэтым разводнікам, але што нам да яе?

— Яе — што?! — абурана крыкнуў я. — Юрка гэта наш падвойны кум!

Я гатоў быў яе разарваць. Крычаў так, аж збегліся суседзі. Прыйшоў і той удавец. Паслухаўшы, што творыцца, вы-

(Працяг на стар. 5)




**Дарагія нашыя сябры — супрацоўнікі рэдакцыі „Нівы“!**

З радасцю паведамляем Вас, што савет Народнага музея рэвалюцыі і баявой славы Сярэдняй школы № 4 горада Слоніма атрымаў каштоўную бандэроль з адрасам адпраўіцеля з Канады. Здзіўляе нас толькі тое, што ў бандэролі мы не знайшлі ніякага пісьма. У сувязі з тым мы не ведаем, каму мы павінны выказаць нашу шчырую падзяку за бандэроль, у якой аказаліся „Беларускія календары“ за 1980 г. з артыкулам пра Гальяша Леўчыка і за 1981 г. з артыкулам пра Максіма Бурсевіча.

Адно мы ведаем, што за ўсё атрыманае мы абавязаны выказаць самую шчырую падзяку рэдакцыі і прасіць Вас выразіць нашу шчырую падзяку чытачу з Канады, які даслаў нам „Беларускія календары“.

Са свайго боку мы запрашаем Вас быць ганаровымі гасцямі Народнага музея ў найбольш выгадны для Вас час. А пакуль што шлём усім Вам нашы шчырыя і добрыя пажаданні.

По даручэнню камітэта камсамола і савета Народнага музея:

дырэктар Народнага музея
**Алена Слуцкая**



СВОЙСКІЯ МАЛЮНКІ

*Дуб у Белавежскай пушчы.*

*Мал. У. Петрука.*




### РАЗДЗЕЛ X

**Агульнабеларускі з'езд у Мінску. Разгром з'езда бальшавікамі. Выканаўчы камітэт Рады першага агульнабеларускага з'езда. Роспуск цэнтральнай беларускай вайсковай рады. Недапушчэнне беларускай дэлегацыі да ўдзелу ў рабоце мірнай канферэнцыі ў Брэсце.**

У з'ездзе, які пачаўся 5 снежня 1917 года, прынялі ўдзел прадстаўнікі губерніяльных земстваў, павятовых, гмінных і сельскіх самаўрадаў, прафсаюзаў, арцельных і вайсковых арганізацый з франтоў і тылаў, камітэтаў бежанцаў, грамадскіх і палітычных арганізацый з Беларусі. Найбольш поўна былі прадстаўлены ўсходнія рэгіёны краіны. Агулам у з'ездзе прынялі ўдзел 1872 прадстаўнікі, у тым ліку 1165 з рашаючым голасам і 705 — з дарадчым.

Старшынёй з'езда быў выбраны Іван Серада. Апрача гэтага, была выбрана таксама Рада з'езда, якая складалася з 50 чалавек. Сталася яна свайго роду канвентам сеньёраў. З'езд гэты быў разагнаны бальшавікамі. Што датычыцца прычын разгону з'езда, дык па-рознаму гавораць аб гэтым розныя крыніцы.

Адны гавораць, што разгон быў выкліканы пастановай з'езда, якая была спрэчнай з існуючай арганізацыяй — Саветам народных камісараў Заходняга краю і фронту:

„Сцвярджаючы сваё права на самаакрэсленне, якое было аб'яўлена рускай рэвалюцыяй, і прыймаючы рэспубліканскую дэмакратычную сістэму на абшары беларускай зямлі для выратавання айчыннай краіны і для забеспячэння яе ад падзелаў і адрыву ад рускай дэмакратычнай федэратыўнай рэспублікі, першы агульнабеларускі з'езд пастанаўляе:

Выбраць неадкладна орган краёвай улады ў форме Агульнабеларускай рады сялянскіх, салдацкіх і рабочых дэлегатаў, якая часова будзе стаяць на чале кіраўніцтва краіны, уступаючы ў практычныя адносіны з цэнтральнай уладай, адказнай перад Радай рабочых салдацкіх і сялянскіх дэлегатаў“.

Другія крыніцы запярэчваюць існаванню такой пастановы і зусім па-іншаму прадстаўляюць прычыны разгону з'езда. Здаецца нам, што праўдзівым з'яўляецца ніжэй прыведзены варыянт канфлікту паміж з'ездам і савецкім урадам. Пачаткова народны камісар па ўнутраных справах Рэзанскі намагаўся накіраваць ход з'езда ў прасавецкім напрамку і з гэтай мэтай выступіў з прамовай. Калі аднак ён запрапанаваў замяніць беларускі сцяг, які вісеў на ганаровым месцы над трыбунай, называючы яго „трохколернай анучай“, чырвоным сцягам інтэрнацыянала, быў вынесены з залы. Пасля гэтага бальшавікі пастанавілі выклікаць раскол сярод удзельнікаў з'езда. Падставай да гэтага паслужыў рамеснік і паэт Фабіян Шантыр. Выступіў ён з прамовай як „беларускі бальшавік“ і заклікаў да адзінства з бальшавікамі. Частка ўдзельнікаў з'езда, якую Шантыр назваў „левым рэчышчам з'езда“, аддзялілася ад з'езда і намервалася аб'явіць адозву да беларускага народа. Пасля канфіскацыі бальшавікамі гэтай адозвы частка гэта зноў вярнулася на з'езд. Кансалідацыя з'езда і з'яднанне розных арыентацый наступіла таксама пад уплывам лекцыі ксяндза Гадлеўскага „Аб полацкім перыядзе гісторыі Беларусі“ і праф. Карскага „Аб асаблівасцях беларускай мовы і аб тэрыторыі і этнаграфіі Беларусі“.

Па прапанове Алексюка будынак Дваранскага клуба ў Мінску быў аб'яўлены народнай уласнасцю. Аднагалоснасць удзельнікаў з'езда не была трывалай — беларусы з Віленшчыны і Гродзеншчыны пад кіраўніцтвам Язэпа Варонкі не прагнулі заставацца ў цесным саюзе з Расіяй. Салідарызаваліся з імі віцебшчане, мінчане і часткова дэлегаты са Смаленшчыны. Пры гэтым прадстаўнікі Магілёўшчыны сталі на грунце прарускай арыентацыі і выступалі супраць усялякай аўтаноміі.

*(Працяг будзе)*



*Пры магіле Антона Лявіцкага на Росе ў Вільні.*

лежныя беларускаму народу. Былі там, дзе ў пачатку XVI стагоддзя друкаваў Скарына свае кнігі, дзе хаваўся Кастусь Каліноўскі, дзе ў міжваенны перыяд друкаваліся беларускія кнігі і часопісы, дзе мясціўся музей Івана Луцкевіча і Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры, беларуская кнігарня, дзе адпраўляліся беларуслія набажэнствы ў касцеле св. Мікалая. Зайшлі таксама ў Віленскі універсітэт, дзе знаходзяцца мемарыяльныя дошкі з прозвішчамі Ігната Даніловіча і Язэпа Ярашэвіча — вядома, на літоўскай мове.

Пасля пайшлі пакласці кветкі на месцы пакарання Кастуся Каліноўскага. Адгэтуль падаліся мы ў Рэспубліканскі палац прафсаюзаў, дзе віленскія беларусы наладзілі ўрачыстае святкаванне 72-ой гадавіны Беларускай Народнай Рэспублікі. Спачатку былі кароткія прамовы. Лявон Луцкевіч прачытаў ўстаноўчыя граматы ўрада БНР і прыпомніў гісторыю ўтварэння незалежнай беларускай дзяржавы. Затым прамаўляў Аляксей Анішчык. Была і мастацкая частка. Асабліва запомнілася выступленне Вольгі Цярэшчанка — студэнткі Гомельскага пединстытута, якая праспявала песню „Айчына, радзіма“ на словы Алеся Барскага. Вольга спявала таксама цудоўна песні на словы Яна Чачота, Алеся Гаруна і Ларысы Геніюш. Усёй урачыстасці спадарожнічалі нацыянальныя сімвалы і нацыянальны гімн „Мы выйдзем шчыльнымі радамі“. Яшчэ раз пасля канцэрта разам з віленскімі сябрамі давялося пайсці на месца пакарання К. Каліноўскага, дзе ўсе разам праспявалі гімн і „Пагоню“, а Аляксей Анішчык прачытаў патрыятычны верш.

Трэба тут адзначыць, што на вуліцах Вільні не спаткаліся мы з варожасцю да беларусаў. Наадварот, многія людзі аказвалі зацікаўленне бела-чырвона-белымі сцягамі і выказвалі падтрымку беларускаму нацыянальнаму руху.

Ад'язджалі мы з Вільні з радасцю ў сэрцы, што жыве Беларусь. Шкада, што сёння мала хто ведае, што Вільня была беларускім нацыянальным цэнтрам у міжваеннай Польшчы. Сапраўды, прыдаўся б альбом аб беларускіх месцах у Вільні і надпісы на беларускай мове на дамах, звязаных з беларускім нацыянальным рухам.

**Дзень трэці — Гародня**

25 сакавіка — нядзеля. Мясцовыя газеты публікуюць дакументы БНР і крытычна іх ацэньваюць. Нельга праводзіць мітынгі з нагоды БНР. Якая ж іншая атмасфера, чым у Вільні. Мікола Таранда ўзяў нацыянальныя сцягі, і ўсе разам пайшлі мы ў музей М. Багдановіча. На просьбу Міколы мы не ўдзельнічалі ў незалежным мітынгу на плошчы Леніна. „Усяляк можа быць“, — сказаў ён нам, калі на плошчы ўставілася калона міліцыянераў і загадала народу разыйсціся. Не дазволена было прамаўляць. Сабраныя заспявалі „Пагоню“ і другія нацыянальныя беларускія песні. Збіралі таксама подпісы, каб 25 сакавіка ўстанавіць нацыянальным святам. Прыглядаючыся мітынгу, я думала аб тым, як жа інакш было ўчора ў Вільні. Там камерамі фатаграфавалі нас поўныя зацікаўлення журналісты з Італіі і Вялікабрытаніі, а тут, на Беларусі таксама фатаграфавалі, але не журналісты. А шкада — няхай бы свет пабачыў, як упершыню ў Гародні беларусы святкуюць сваё нацыянальнае свята, аб якім яшчэ нядаўна мала хто ведаў.

Паглядзелі мы музей Максім Багдановіча і вельмі шкадавалі што не спаткаліся з паэтэсай Данутай Бічэль-Загнетавай. Гэтай сустрэчы мы вельмі чакалі. Шкада, што тры дні — гэта так мала, і мы не паспелі спаткацца з тымі ўсімі, каго пабачыць хацелі. Аднак мы не шкадуем, што 72-ую гадавіну БНР святкавалі на Беларусі. У мяне ў вушах усё яшчэ гучаць словы Міколы: „Ну што, ці ты так сабе ўяўляла святкаванне? Няхай цябе нічога не здзіўляе. У нас такая рэчаіснасць“.

**Лена Глагоўская**
(ганарар на музей)



*Месца зняволення Кастуся Каліноўскага.*

хання. Бяру наўздагад вось гэты, з Брэста. Ліст напісаны паўдзіцячым почыркам, у ім ігнаруюцца ўсе мажлівыя законы правапісу, але справа, вядома, не ў гэтым.

„Паважаная рэдакцыя, мне 16 гадоў. Не ведаю, што рабіць, ляжу і плачу. А яшчэ нядаўна мне здавалася, што я самая крутая дзяўчынка. Пацаны ад мяне тырчэлі. Я гуляла з імі як хацела. У мяне прыгожая фігура, абалдзенная паходка, і ім вельмі падабалася, як я магу танчыць голая. Не горш чым у відзіку. Сустракаліся і ў мяне на хаце, і ў іншых месцах, нават у школе, на лесвіцы. Шчыра скажу, мне зайздросцілі дзяўчынкі, бо на дыскатэцы варта мне было адно міргнуць — і пацаны маглі адлупцаваць любога. Мне падабалася гуляць у „шведачку“ — гэта калі ты адна, а іх шмат. Карацей, кайфавалі крута.

Цяпер у мяне вялікая бяда. Я не магу расказаць пра яе ні маці, ні сяброўкам. Мама звар'яцее, а сяброўкі будуць злавацца. А я ганарлівая. Дык вось, я цяжарная. Можа, вы ведаеце, чым дапамагчы?..“

У лісце столькі пікантных падрабязнасцей салодкага жыцця дзесяцікласніцы Ганны, што іх хапіла б на пяць серый „Маленькай Веры“. Але мяне непакоіць іншае. Ганна ж, здаецца, толькі цяпер задумалася, наколькі рызыкоўны секс. Што гэта не жартачкі і кайф. Толькі адчуўшы, як таўсцее талія, як ванітуе ўранку, яна зразумела розніцу паміж сабою і фігурантамі „шведачкі“ мужчынскага полу. Але раздумваючы пра гэтую юную дурнічку, пра яе зломлены лёс, я не магу не бачыць і сацыяльнага аспекту. Бо ж, як і большасць сваіх равесніц, Ганна глыбока перакананая ў тым, што ў любым выпадку ёй нехта дапаможа, што, прынамсі, прыедуць карэспандэнты і развядуць бяду рукамі. Ну хіба не класічны паказчык агульнага інфантылізму нашае моладзі, выхаванай у духу суцэльнага „абдзяржаўлення“, пры якім чалавек можа не раздумваць пра вынікі асабістага выбару, яму заўсёды і ва ўсім дапамогуць.

Эх, калі б тысячы такіх вось Ганнаў, якія бясстрашна кінуліся ў спакуслівыя струмяні сексуальных насалод, ведалі, што дзяржава, канечне, не адмовіцца ад выхавання зачатых у граху дзяцей, апрыоры няшчасных, але грамадская мараль будзе непрымірымая да распусніц.

І хіба не актуальны роздум над такім пытаннем: ці зможам мы стварыць грамадскую атмасферу, пры якой зусім ясны будзе адказ на пытанне: чаму не сорамна быць маці ў дзевятнаццаць гадоў і сорамна — у пятнаццаць.

Гэты клімат трэба ствараць без двудушнасці.

Трэба растлумачыць Ганніным равесніцам адну простую, але вечную думку — тыя самыя пацаны, якія здаюцца ім вернымі „падданымі“, наўрад ці пойдуць далей таго, што па ўказцы „спадарыні“ жорстка паб'юць любога. Можна быць упэўненым, што ва ўсім астатнім іхняе рыцарства будзе раўняцца нулю, а ўжо ў глыбіні душы яны глыбока пагарджаюць сваёй сяброўкай па папулярнай гульні ў групавы секс. І не трэба вінаваціць — такая мужчынская псіхалогія. А сёння хлопчыкі — гэта заўтрашнія мужчыны. Тут ужо нічога не зробіш.

Я адкладаю ўбок ліст Ганны. Згадваю размову з Алегавай маці. Думаю пра тое, што ніяк нельга аддзяляць праблему полавай адукаванасці ад маральных, сацыяльных і іншых праблем. Не трэба шырока расплюшчваць вочы пры слове „секс“, але нельга забывацца і на тое, што гэта не проста гульня ў каханне, а нешта больш сур'ёзнае. Ад гэтага, казаў клас, могуць быць дзеці. А ці патрэбныя нам дзеці ад пятнаццацігадовых дзяцей? Ці патрэбныя нам матулькі, якія, нягледзячы на статныя фігуры, высокія грудзі і ўсё такое іншае, самі, па сутнасці, яшчэ горкія дзеці. Як ім унушыць простую думку:

— Не спяшайце! Вось калі вырасцеце, атрымаеце прафесію, тады і сексуйце сабе на здароўе...

Але чую ў адказ жыццярадасны смех. Рагочуць хлопчыкі і дзяўчынкі. Ім здаюцца смешнымі ўсе „дарослыя“ размовы, ім карціць зведаць жыццё ў самых салодкіх праявах.

І жыць спяшаюцца і адчуваць...

Мамы трывожацца, мамы плачуць. А іхнія дзеці ўпотайкі пparticularly глядаюць на гадзіннік — блізіцца вечар, час сустрэч. Час рызыкоўнай, але ж такой спакуслівай гульні ў „шведачку“...

**Павел Якубовіч**
(„Крыніца“, № 3/1990)

# ЗОРКА

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ




*Школьны тэатр з Махнатага — інсцэнізацыя народнай песні „Баба Еўка, дзед Тамаш“. Кіруе калектывам настаўніца Галена Сельвясюк.* *Фота Я. Чэрнякевіч.*

# АДДАЙ ТОЕ, ШТО ДОМА НЕ ПАКІНУЎ

### БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ КАЗКА

**Заканчэнне. Пачатак у папярэдніх нумарах.**

— Вось, — кажа, — гэтая мне спадабалася.

— Ну, гэта дык гэта, — адказвае пан. — У мяне дочкі ўсе роўныя. Бяры сабе, якая спадабалася.

А пані аж пазелянела ад злосці: не родную яе дачку выбраў сабе за жонку гэты слаўны майстар, а нялюбую падчарку!

— Не, — затупала яна нагамі, — я так не згодна: яшчэ раз няхай выбірае!

Пан кажа:

— Няхай будзе па-твойму.

Завязаў ён Янку хустачкай вочы, а потым развязаў і кажа:

— Выбірай другі раз!

Абышоў Янка дзяўчат, бачыць — над галавою ў аднае муха лятае. „Ага, — успомніў ён Касіны словы, — гэта яна!“

Узяў ён яе за руку і падвёў да пана.

— Што ж, — кажа пан, — бяры гэтую: у мяне ўсе дзеці роўныя.

А пані зноў затупала, закрычала:

—Не згодна! Няхай да трох раз выбірае!

Завязаў пан Янку хустачку на вочы, а калі развязаў — перад ім зноў стаяць дванаццаць дзяўчат, роўныя, як адна!

Пачаў Янка прыглядацца да рук і ўбачыў у адной дзяўчыны зялёную нітачку на правым мезеным пальцы.

— Няхай будзе гэтая маёю жонкаю, — кажа ён да пана.

Нічога не зробіш — мусіў аддаць вядзьмар яму распіску.

— Заўтра вяселле згуляем, — кажа пан, — і будзеце тады жыць у новым палацы.

Пайшлі маладыя ў Касіну хатку да вяселля рыхтавацца. Кася кажа Янку:

— Вяселле спраўляць будзем не ў майго бацькі, а ў твайго.

— Чаму? — пытаецца Янка. — Тут жа наш палац стаіць!

— Нам трэба ўцякаць адгэтуль, бо злая мачыха загубіць нас, — кажа Кася.

У поўнач, як усе моцна спалі, выскачылі яны з хаткі ды пабеглі да Янкавых бацькоў.

Назаўтра ўсталі паны і паненкі — чакаюць маладых: пара вяселле спраўляць. Ды штосьці маладыя доўга спяць. Паслалі слуг будзіць іх.

Падышлі слугі да хаткі. Клікалі, клікалі — ніхто не адгукаецца. Заглянулі ў хатку — пуста. Вярнуліся слугі і сказалі пра гэта пану.

Пан узлаваўся, а пані нема крычыць:

— Гэй, ганцы, даганяйце іх! Жывых або мёртвых, а назад вярніце!

Ускочылі ганцы на коней і памчаліся на ўвесь дух. Ляцяць барамі, ляцяць лясамі — натрапілі на след.

— Ну, цяпер яны ад нас не ўцякуць! — кажуць ганцы.

Тым часам прыпала Кася да зямлі, паслухала.

— Зямля грыміць, вецер шуміць, — кажа, — гэта за намі пагоня ляціць...

— Што ж нам рабіць? — пытаецца Янка.

— Я перакінуся ў авечку, а ты будзеш пастушком. І калі ў цябе запытаюцца, ці не бачыў ты на гэтай дарозе хлопца з дзяўчынаю, кажы, што не бачыў.

Махнула Кася прутком, і ўсё сталася, як яна задумала.

Падлятаюць ганцы:

— Гэй, пастушок, ці не бачыў ты на гэтай дарозе хлопца з дзяўчынаю?

— Не, — адказвае пастушок, — я з самага ранку тут пасу, а нікога не бачыў.

Пакруціліся ганцы на месцы — следу няма. Вярнуліся назад, кажуць панам:

— Нікога не дагналі. Толькі пастушка з авечкай спаткалі. Папыталіся ў яго, дык ён сказаў, што з самага ранку там пасе, а нікога не бачыў.

— Гэта яны! — закрычала пані. — Даганяйце хутчэй!

Кінуліся ганцы назад. „Ну, думаюць, цяпер мы схопім пастушка з авечкаю як міленькіх!“

А Кася з Янкам бягуць ды бягуць на ўсю сілу.

Але вось зноў чуюць яны за сабою пагоню. Махнула Кася прутком — і стала зялёным садам, а Янка — садоўнікам.

Падляцела пагоня:

— Гэй, садоўнік, ці не бачыў ты на гэтай дарозе хлопца з дзяўчынаю?

(Праняг на стар. 10)

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Уладзімір Карызна

### СЛІМАКОЎ ДОМ

— Слімак, дзе твой дом?
— Пад лістком.
— Вазьмі мяне, — кажа мушка
— Ідзі, весялушка.
— Вазьмі мяне, — кажа жабка.
— Ідзі, бабка.
— Вазьмі мяне, — кажа матылёк.
— Ідзі, галубок.
— Вазьмі мяне, — кажа мураш.
— І ты наш...

Усе пад лісток захацелі —
І папаўзлі,
Паляцелі,
Шу-шу-шу і шы-шы-шы, —
Шумна, як на кірмашы.
Ды каб адзін у аднаго
Запыталіся,
Не адказалі б,
Чаго пазбіраліся.

Раптам пацямнела,
Гром, як з гарматы, б'е
Цёпла ўсім і весела —
І дождж
ык за карак не лье.

### А ДЗЕ ЖАБА?

Даўгацыбы,
Даўганосы
Бусел жабу пераносіў.
Па балоце ішоў
Каля купін, каля карчоў,
Вады ў боты набраў,
Кашулю парваў.
Стаў з ботаў ваду выліваць —
Умудрыўся порткі парваць.
Як зашываў рыззё,
Прышыў не туды крысо —
Не можа разагнуцца ніяк.
Калі ж разагнуўся бядак,
Есці захацелася.
А куды ж жаба падзелася?



### КАЛЫХАНКА

Як срэбныя ніці,
Праменьчыкі на расе.
Я скручу ў клубочак іх
Пакрысе.

Я свайму маленькаму
Тапаткі-лапаткі звяжу,
Я свайму маленькаму
Казачку раскажу.

Казачку-ласачку раскажу,
Каб цёпленька было спаць.
Будзе месяц носікам
Сон яго калыхаць.

## Вершы Віктара Шведа

### САМАЛЁТ МАЛЮЕ НЕБА

Рэактыўны самалёт
Праляцеў над вёскай.
За ім простая, як дрот,
Белая палоска.

Узіраецца Адам
Увысь анямелы:
— Самалёт малюе нам
Неба фарбай белай.

### У ЦЫРУЛЬНІКА

— Ты малады хлапчына,
А лысы ўжо, ды годзе.
Бачу, што валасіны
Ужо ў цябе выходзяць.

Ці ў лекара н'колі
Не быў ты з валасамі?
— Не быў, — азваўся Коля, —
Яны вылазяць самі.

### Я З БАБУСЯЙ АЖАНЮСЯ

— Вельмі кахаю я бабусю, —
Тапе сказаў малы сынок. —
Напэўна, з ёю ажанюся,
Калі прыбудзе мне гадок.

— Не можаш, дарагі Адаме, —
Тата сынка перасцярог, —
З маёю ажаніцца мамай.
— А ты з маёй, татулька, мог?

### У ПЕДЫЯТРА

— Ты крышачку хварэеш,
Каханая дзяўчынка.
Прапісваю табе я
Рэцэпт на вітамінкі.

— Дык вельмі мне прыемна.
Прашу вас, калі ласка,
Вы выпішце яшчэ мне
І смачную каўбаску.

### МАЛЯВАЦЬ ЛЯГЧЭЙ МНЕ ТАТУ

Сястра пытае брата,
Маленькага Адама:
— Чаму малюеш тату
Заўсёды, а не маму?

Сваёй сястрыцы Улі
Брат выявіў прычыну:
— З прычоскаю матуля,
Тата — без валасіны.

### СЫНОЧАК ШУКАЕ ВОЧАК

Угневаная маці
Сварыцца на сыночка:
— Дурэеш заўжды ў хаце,
З пруткоў спусціў ты вочка.

У кожненькім куточку
Шукае хлопец з плачам:
— Схаваліся дзе вочкі?
Я вас нідзе не бачу.

### ЖАДАЮ КАМПЕНСАЦЫІ

Звяртаецца аднойчы Якаў
Са скаргаю да Мікалая:
— Твой пакусаў мяне сабака,
Я кампенсацыі жадаю.

— Калі такі ўжо ён паскуда, —
Адказвае на гэта Коля, —
Трымаць свайго сабаку буду,
А ты яго кусай уволю.

## АДДАЙ ТОЕ, ШТО ДОМА НЕ ПАКІНУЎ

(Працяг са стар. 9)

— Не, — кажа садоўнік, — не бачыў. Я ўжо тут дзесяць гадоў сад даглядаю, а хлопца з дзяўчынаю ні разу не бачыў...

— А пастушка з авечкаю?

— Таксама не бачыў...

Вярнуліся ганцы назад.

— Мусіць, — кажуць, — мы з дарогі збіліся: нікога не бачылі. Сустрэлі толькі па дарозе садоўніка каля саду, дык ён сказаў, што ўжо дзесяць гадоў сад даглядае, але ні хлопца з дзяўчынаю, ні пастушка з авечкаю не бачыў.

— Ах вы, нягоднікі! — закрычала пані. — Трэба ж было вам секчы і сад і садоўніка — гэта былі яны! Не, кепская на вас надзея, давядзецца самім бегчы.

Перакінуўся пан у ваўка, а пані ў ваўчыху ды пабеглі наўздагон за ўцекачамі. Ляцяць, аж пыл курыць, аж вецер свішча.

Пачула Кася новую пагоню і кажа:

— Гэта мой бацька і мачыха ляцяць. А іх нялёгка ашукаць. Ды паспрабуем: я разальюся возерам глыбокім, а ты станеш качарам. Плавай па возеры і, глядзі, нікому ў рукі не давайся.

Махнула яна прутком — і стала возерам, а Янка качарам. Падлятаюць воўк з ваўчыхаю да возера.

— Возера — гэта яна! — закрычала ваўчыха. — Цяпер мы ёй нічога зрабіць не можам. А качара зловім — бо гэта сам Янка! Тады і яна за ім пойдзе.

Кінуліся воўк з ваўчыхаю ў возера і давай качара лавіць. А той то нырца дасць, то высока над вадою ўзляціць...

Ганяліся, ганяліся воўк з ваўчыхаю за качарам, патаміліся і пайшлі на дно. Тут ім і канцы.

А Янка з Касяю зноў сталі такімі, як былі. Пабраліся за рукі ды спакойна пайшлі да Янкавых бацькоў вяселле спраўляць.

Гучнае гэта было вяселле. Усе пілі, елі і ўсе весяліліся. А з усімі весяліўся і Янкаў бацька.

Я на тым вяселлі быў, мёд піў, па вусах цякло, а ў роце не было. Далі мне там боты шкляныя, капялюш васковы і сурдут папяровы. Пайшоў я, падскокваючы, дамоў. Ішоў, ішоў, спатыкнуўся на камень, а боты — дзынь, дзынь! — і пабіліся. Дождж паліўся — сурдут размок і з плеч зваліўся. А потым сонца як прыпякло, дык і капялюш растаў. Пайшоў я дахаты без нічога. Прыйшоў на свой пасеў, сеў ды гэтую казку вам расказаў.

Канец.

## Паглыбляй свае веды

### АЛЯКСАНДР САПЕГА — ВУЧОНЫ І ПАДАРОЖНІК

Сапегі — гэта магнацкі род на Беларусі. Яго прадстаўнікі займалі вышэйшыя дзяржаўна-адміністрацыйныя і ваенныя пасады ў Вялікім княстве Літоўскім ў 15—18 стагоддзях. Паходзяць Сапегі з полацкіх баяр. Лічыліся другім па значэнні (пасля Радзівілаў) родам на Беларусі, з 17 ст. мелі княжацкі тытул. Першы з Сапегаў, які ўпамінаецца ў крыніцах, быў пісарам вялікага князя літоўскага Казіміра (40-ыя гады 15 ст.). У канцы 16 — пачатку 17 стагоддзя перайшлі з праваслаўя ў каталіцызм.

Адзін з Сапегаў, Аляксандр, быў вялікім вучоным, падарожнікам і землеапісальнікам, займаўся хіміяй і стандартызацыяй мер і вагаў на нашых землях.

Нарадзіўся Аляксандр Сапега 2 верасня 1773 года ў сям'і палкоўніка Юзафа Сапегі, прадстаўніка старога беларускага роду. Школьныя гады яго прайшлі на радзіме бацькоў у маёнтках Коцк і Сямяцічы. Цётка Аляксандра Сапегі Анна Ябланоўская сабрала там вялікі мінералагічны музей (пазней ён быў перавезены ў Пецярбург), а таксама заснавала акушэрскую школу.

У пачатку 19 стагоддзя Аляксандр Сапега зрабіў падарожжа „ўздоўж Ядрана" (Адрыятычнага мора, як тады яго называлі славяне). Пабываў у Істрыі, Далмацыі і Герцагавіне. Мэту свайго падарожжа ён акрэсліў так: „Для падарожніка было б злачынствам не заўважаць (звычаяў народа — В.Г.) і не апісваць іх". Для вывучэння гісторыі кожнага народа ён прапанаваў выкарыстоўваць яго мову, мову яго продкаў, яго звычаі і сувязі з іншымі народамі. А. Сапега ўвесь час падкрэсліваў блізкасць славянскіх народаў і іх мовы.

Пачаў свае падарожжа А. Сапега ад Ідрыі, дзе былі ў той час адзіныя ў Еўропе капальні ртуці. Сапега сам спускаўся ў шахту і з рызыкай для жыцця браў пробы ртуці для доследаў. Кожны раз, калі яму рабілася кепска ад ядавітых атрутных газаў, яго на вяроўцы выцягвалі наверх.

З Трыеста Сапега адплыў на поўдзень, яго шлях вёў праз каменяломні, адкуль вывозіўся мармур. Тут, на востраве Брыёлі ён вывучаў прыроду начнога свячэння мора, асаблівасці мясцовых мінералаў.

У Рыецы падарожнік пабываў на цукровай фабрыцы. Пісаў аб лагодных характарах жыхароў вострава Крк. Падарожнічаў па паўднёвай Далмацыі. Аб вёсцы Сан-Філіпа, якая раскінулася сярод балотаў, Сапега напісаў, што жыхары часта хварэюць, бо „сляпнёў і камароў тут столькі ж, як і на Палессі".

Падарожжа „уздоўж Ядрана" закончылася ў Дуброўніку. Затрымаўся ён у тым самым доме, дзе тры дзесяткі гадоў назад спыняўся іншы беларускі магнат — нясвіжскі князь Кароль Радзівіл па мянушцы „Пане каханку".

А. Сапега падарожнічаў і па іншых мясцінах, але, на жаль, яго дзённікі не пабачылі свету.

(Паводле кнігі В. Грыцкевіча „Падарожжы нашых землякоў")

## ПАЗНАЁМІМСЯ

* * *

Молдавская ССР, 279200, г. Бельцы, ул. Карла Маркса, 7, кв. 27. Чертан Лилияне (13 гадоў).

* * *

Эля Грэсюк, Семяноўка, 128, пошта Семяноўка, 17-222, Беластоцкае ваяводства.

## А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А



*Замалюй палі, азначаныя кропачкамі, шэрым колерам, а крэскамі — зялёным.*



Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1, „Зорка".

# КРЫЖАВАНКА

**Упоперак:** 1. Спецыяліст ад расследвання злачынстваў. 9. Аўтамат, як чалавек. 10. Незамужняя. 11. Людзі адзін за адным. 14. Звязаны пук збажыны. 16. Летні домік за горадам. 17. З яго атамная энергія. 18. Трое музыкантаў. 19. Падводы адна за адной. 20. Кніга або рэзервуар. 21. Жаночае імя туды і назад. 23. Раслінны тлушч. 25. На зладзеі гарыць. 28. Вага, груз. 29. Рыбалоўная прылада ў выглядзе віл. 30. Мая Чыбурданідзэ.

**Уніз:** 2. Дугападобная косць. 3. Спаборніцтва паміж дзвюма камандамі. 4. Чорны чалавек. 5. Мяккае дрэва або фальшыўка. 6. Загляне і ў нашае аконца. 7. Студэнцкае знаходжанне на старонках „Нівы". 8. Удзельнік аматарскага калектыву. 12. Забеспячэнне перад атакай. 13. Разнавіднасць тавару. 15. Звычайная мова. 16. Цяслярская прылада для падчынкі бярвенняў і дошак. 22. На ёй шапачка, найчасцей у лесе. 24. Хаця невялікі, але з грыбамі. 25. След ад раны. 26. Агароджа. 27. „Кінь яго ў гразь, а будзеш — князь" (на корм коням).

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны дзве кніжныя ўзнагароды.

**Адказы на крыжаванку, змешчаную ў № 11. Упоперак:** паравоз, сноб, дух, аркестр, аблава, трава, варыянт, кладка, бусел, ачос, адпачынак, застой, кюрый. **Уніз:** практык, рэклама, вясна, здрада, схіл, баласт, Аляксандр, вадапой, лыч, дэсант, бычок, лёкай, абоз.

Кніжныя ўзнагароды выйгралі: Павел Анцыповіч з Мінска і Васіль Барболін з Брэста.

# НІЎКА

# АФАРЫЗМЫ

*

Не ствараў дабра таму, хто яго ў цябе не просіць.
Соты раз не дагодзіш — дзевяноста дзевяць зашкодзіш.

*

Часта караюць збанок за тое, што ў ім сок горкі.

*

Мог бы чалавек па-божаму пражыць, калі б адрокся за пазухай чорта трымаць.

*

Гадзіннік нацыяналізму няправільна паказвае час без стрэлкі інтэрнацыяналізму.

*

Не карай посуд за тое, што ён пусты, карай таго, хто яго напаўняе.

*

Людскі бунт падобны на дрэва: карону можна хутка зрэзаць, але карэнні застаюцца.

*

Цяжка лётчыцыі прабіцца праз натоўп без цвёрдых локцяў.

**Язэп Карпюк**

## МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на такі адрас: Bank Spółdzielczy w Hajnówce Nr Konta 905217-1922-132-3.

У замежнай валюце: Narodowy Bank Polski I Oddział w Białymstoku nr rachunku walutowego 5021-24325-152-6787, nr rachunku walutowego w rublach 5021-24325-151-6201.

**Жыхары БССР грашовыя ахвяраванні могуць уплачваць на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Мінска.**

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

| | | |
|---|---|---|
| 3182. | Міхал Дулько (Белавежа) | — 10000 зл. |
| 3183. | Жыхары вёскі Дашы (грошы сабраны на канцэрце хору Гайнаўскага дома культуры) | — 21200 зл. |
| 3184. | Сяргей Германюк (Доўгі Брод) | — 3000 зл. |
| 3185. | Міхал Байко (Гайнаўка) | — 30000 зл. |
| 3186. | Мікалай Весялоўскі (Гайнаўка) | — 30000 зл. |
| 3187. | Рыгор Семянюк (Райкі) | — 10000 зл. |
| 3188. | Гмінны кааператыў „Сялянская самадапамога" ў Нарве | — 506000 зл. |
| 3189. | Сцепаніда Адзіевіч (Орля) | — 5000 зл. |
| 3190. | Ольга Троц (Беласток) | — 1200 зл. |
| 3191. | Уладзімір Троц (Беласток) | — 1200 зл. |
| 3192. | Анна Артэмюк (Парцава) | — 1200 зл. |
| 3193. | Мікалай Прызовіч (Парцава) | — 1200 зл. |
| 3194. | Ян Козак (Беласток) | — 1200 зл. |
| 3195. | Юры Зюзя (Варшава) | — 25000 зл. |
| 3196. | Люба і Уладзімір Касперукі (Беласток) | — 10000 зл. |
| 3197. | Зоя Смаршчок (Бельгія) | — 100 ам. дол. |

Дзякуем.

**Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej i Ruchu Rewolucyjnego. 17-200 Hajnówka, ul. Wyzwolenia 6. Тэлефон 28-89.**

## ВУЧОБА І ПРАКТЫКА

Кожны, хто заходзіў у кабінет Міхася Бесталковіча, здзіўляўся вялікай калекцыі дзіцячых цацак на яго рабочым стале: машыны, трактары, розныя прычэпы.

Гуляе ён з імі, ці што? — дзіваваліся наведвальнікі.

Ніхто не здагадваўся, што Бесталковіч праходзіў з гэтымі цацкамі практыку, якой яму так не хапала ў гады вучобы.

Калі Міхась закончыў інстытут, яму пашанцавала: ён атрымаў накіраванне на работу ў горадзе. Малады спецыяліст узяўся за справу. Кожны дзень падпісваў дзесяткі папер, і сотні адзінак машын і механізмаў накіроўваліся ва ўсе канцы. Адным росчыркам пяра Міхась мог размеркаваць іх і пераразмеркаваць, накіраваць у самую перыферыю і вярнуць назад.

З самага пачатку работы Міхась Бесталковіч адчуваў недахоп практыкі. У час вучобы меў справу галоўным чынам з канспектамі, на практыку ездзіў у будатрад. Цяпер далей стала ў рабочым кабінеце таксама не бывае...

Выручыў выпадак. Зайшоў неяк у магазін цацак і здзівіўся: там стаяў дакладна такі трактар, які ён ужо каторы дзень распісваў на шматлікіх паперках. Цацачны, вядома...

— Дык вось ён які на самай справе! — падумаў Бесталковіч і купіў цацку. Паставіў яе ў рабочым кабінеце як сувенір і пакрысе вывучаў: вось гэта колы, а тут, значыць, рухавік... Калі прыходзіла чарга браццa за другую тэхніку, Бесталковіч спяшаўся ў магазін цацак.

**Васіль Ферант**

Ніва

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Рэдагуе калектыў: Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Марыя Федарук (машыністка), Ала Чачуга (адказны сакратар), Яніна Чэрнякевіч (рэдактар „Зоркі").

„Niwa"
ul. Wesołowskiego 1
15-950 Białystok, skr. poczt. 149
tel. 332-41, 210-33.

Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

Warunki prenumeraty pocztowej na 1990 r.:

1. Prenumeratę pocztową (z dostawą do domu) zamawiać mogą mieszkańcy wsi, osad oraz miasteczek w których nie ma Oddziałów RSW a także osoby niepełnosprawne bez względu na miejsce zamieszkania.
2. Wpłaty na tę prenumeratę przyjmują urzędy pocztowe oraz doręczyciele.
3. Podstawowym okresem przyjmowania prenumeraty pocztowej jest kwartał.
4. Termin wpłat na prenumeratę pocztową na III kwartał 1990 r. upływa 20 maja 1990 r. włącznie.
5. Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 7.800 + 3.250 zł za doręczanie.
6. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch" Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw Warszawa, ul. Towarowa 28 Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

Mieszkańcy miast mogą zamawiać prenumeratę indywidualną poprzez Oddziały RSW w następujących formach:

— prenumerata instytucjonalna (w zakładach pracy).
— rezerwacja w tzw. teczkach (we wszystkich kioskach).
— prenumerata własna RSW (w wytypowanych kioskach).

Zam. 320/90 r. U-3.